Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 6000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **70.000** м. п. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 10000 мк., сярод тэксту 9000 м. і на 4 стр. 8000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 18. Вільня, Серада, 10-га кастрычніка 1923 г. Год I.

## З прычыны канфіскацыяу.

Ужо тры нумары нашае газэты падрад канфіскуе віленская адміністрацыйная ўлада.

Тры нумары пан Камісар Ураду прызнаў „праступнымі“ і, спыніўшы іх пашырэньне, пераслаў справу на разгляд суду.

Мы лёяльна скланяем галаву перад *законнымі* загадамі ўлады, але апошнія канфіскацыі нашае газэты выклікаюць сур'ёзнае сумляваньне аб згоднасьці іх з законам. Тое, што пісалі мы, піша ў адзін голас уся польская опозыцыйная прэса. Тое-ж пісалі мы і раней, крытыкуючы нацыянальную, сацыяльную і эканамічную палітыку сучаснага ўраду. І характэрна, што *суд* ужо ня раз прызнаваў канфіскацыі нашае часопісі панам Камісарам Ураду *безпадстаўнымі*: так, канфіскацыя першых двох нумараў газэты „Наш Сьцяг“ *была судом зьнята*. За час ад 1 студня г. г. сканфіскаваны панам Камісарам Ураду ў Вільні 18 нумараў беларускіх газэт. Судовыя справы, распачатыя проціў рэдактароў, выключаючы толькі адну, спынены.

Мы даем гэту статыстыку затым, каб паказаць, што сыстэматычныя канфіскацыі віленскай адміністрацыяй беларускіх часопісяў прынялі характар *палітычнае барацьбы з беларускім грамадзянствам*, якому не даецца права высказываць думкі свае. Канфіскацыя-ж трох апошніх нумараў „Вольнага Сьцягу“ (нешта-ж жыцьцё лішне ўжо пярэчыць яго назову!) пасьля доўгага перарыву можа быць вытлумачана хіба нейкім загадам „зьверху“— з Варшавы, тым больш, што адбылася якраз сьледам за нарадамі ваяводаў „крэсовых“ ваяводзтваў....

Ня гледзячы на рэпрэсіі, мы далей будзем выпаўняць наш грамадзкі абавязак і гаварыць тое, што, паводле нашага глыбокага перакананьня, зьяўляецца *праўдай* і ня можа быць у супярэчнасьці з асноўнымі законамі Канстытуцыі дэмакратычнага гаспадарства. Адначасна з гэтым мы зварачаемся да Беларускага Пасольскага Клюбу з просьбай аб абарону.

## П. П. С. аб нацыянальным пытаньні.

Чым цяжэйшая наша *сучаснасьць*, тым больш імкнецца вока да *будучыны*, спадзяючыся, што некалі ды прыйдуць лепшыя часы, і мінецца ўсё ліха сучаснасьці.

І кожын беларус, ці то хлебароб, ці работнік у месьце, ці грамадзкі дзеяч і палітык — усе павінны крэпка *верыць у гэныя лепшыя часы*. Уся сусьветная гісторыя вуча нас, што няволя, рабства—гэта *ненармальны, хваравіты стан* чалавека і народу. І тыя людзі і народы, якія з верай у сваё вызваленьне змагаліся з часта многа разоў дужэйшым ворагам, што іх паняволіў, раней ці пазьней, але заўсёды і няўхільна здабывалі для сябе волю.

Гісторыя Ірляндыі, што на нашых вачох вызвалілася з пад ангельскага ярма, гісторыя Польшчы, якую паўтараста гадоў таму назад падзялілі між сабой тры суседнія вялікія дзяржавы, ды якая ўваскросла і вярнула сабе з навязкай усё ўтрачанае,—вось яркія доказы вышэйсказанага.

І якія-бы чорныя дні нам ні прышлося йшчэ перажыць, мы павінны верыць у будучыну. Ня зьела і не ператравіла нашага народу *за сто з лішкам гадоў* магутная Расейская імпэрыя і ня зьесьць і „Хіена“ за, дасьць Бог, кароткі час свайго панаваньня.

Але вера ў будучыну вымагае і працы дзеля гэнае будучыны. Нельга сядзець, злажыўшы рукі і спадзяючыся, што нехта нешта нам *дасьць* сваей ахвотай. Дзеля гэтага мы павінны ўсе сілы напружаць, каб захаваць сваё нацыянальнае аблічча ў часы ліхалецьця, павінны пільна сачыць за ходам выпадкаў, каб у мамэнт зьмены кірунку польскае дзяржаўнае палітыкі, у мамэнт перамогі польскіх працоўных масаў, з намі прымушаны былі лічыцца і новыя гаспадары палажэньня.

Сярод тых партыйных груп, якія зьяўляюцца кандыдаткамі на ўладу ў прыпадку зьмены палажэньня ў Сойме і ў урадзе, на першым месцы стаіць Партыя Польскіх Сацыялістаў—P. P. S. У хуткім часе мае адбыцца кангрэс гэтае партыі, на якім будзе разглядацца пытаньне аб адносінах партыі такжа і да так званых „нацыянальных меншасьцяў“ Польшчы. З прычыны таго, што П. П. С. мае даволі шырокія ўплывы на *польскія работніцкія масы, блізкія нашаму народу з сацыяльнага пагляду*, нас становішча партыі ў гэтым пытаньні асабліва цікавіць: *ад таго, як партыя разьвяжа яго, будуць залежаць і нашыя адносіны да партыі і да яе імкненьня да ўлады.*

У № 271 партыйнага органу П. П. С. „Robotnik“ надрукаваны праект рэзалюцыі ў справе нацыянальнае палітыкі, апрацаваны Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам партыі. Справядліва адзначыўшы, што палітыка ўсіх зьмяняўшых адзін аднаго ўрадаў (а, значыцца, і самых польскіх сацыялістаў, прыймаўшых у іх учасьце!) давяла да таго, што „Польская Рэспубліка ператвараецца ў арэну бязупыннае барацьбы нацыянальнасьцяў, што задзержывае разьвіцьцё работніцкага руху, пярэчыць імкненьням да дэмакратызацыі Польшчы, узмацовывае рэакцыйныя сілы ў польскім грамадзянстве....“, рэзалюцыя дамагаецца: „1) поўнае і запраўднае роўнапраўнасьці для ўсіх грамадзян Рэспублікі бяз розьніцы веры і нацыянальнасьці; 2) увядзеньня ў жыцьцё пастановаў Канстытуцыі, якія забясьпечываюць нацыянальным меншасьцям іх правы на сваю культуру, мову і школу; 3) поўнага разрыву з палітыкай адміністрацыйнага зьдзеку і заслугуючых найвастрэйшага заклеймленьня рэлігійных і нацыянальных перасьледаваньняў; 4) увядзеньня на так званых „kresach wschodnich“ гміннага самаўпраўленьня у мястох і вёсках, а такжа павятовага і ваяводзкага; 5) правядзеньня зямельнае рэформы ў мысьль дамаганьняў Саюза Польскіх Сацыялістычных Пасłоў у першым Сойме; 6) тэрыторыяльнае аўтаноміі для меншасьцяў, якія насяляюць азначаныя абшары на Усходзе Рэспублікі з захаваньнем правоў польскага насяленьня“.

Паскольку ўсе пункты ад 1 да 5 ўключна не прадстаўляюць нічога новага, а толькі дамагаюцца зьдзейсьненьня пастаноў Канстытуцыі, — пастольку апошні, шосты, пункт ёсьць нешта новае. П. П. С. загаварыла аб *аўтаноміі тэрыторыяльных нацыянальнасьцяў на Усходзе Рэспублікі.* І гэтае першае выступленьне партыі ў гэтым кірунку прыходзіцца шчыра вітаць, але толькі... прынцыпова! Бо над рэзалюцыяй лунае ўсё яшчэ той сацыял-эндэцкі дух, які так ярка ўасабляе ў сабе адзін з аўтараў рэзалюцыі, пан Недзялкоўскі.

Здаецца, кожнаму ясна, што на Ўсходзе Рэспублікі ёсьць *два вялікія тэрыторыяльныя народы: беларускі і украінскі*, з каторымі разам жывуць *польская, жыдоўская і літоўская меншасьці.* І, калі-б Партыя Польскіх Сацыялістаў ставіла справу *зусім шчыра*, дык, замест туманнае рэдакцыі пункту шостага, прасьцей было-бы сказаць аб *аўтаноміі Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны.* Але *туманнасьць рэдакцыі* пункту аб аўтаноміі выяўляе іменна *няшчырасьць* цэнтральнага органу партыі: бо-ж мы йшчэ дужа добра памятнам заявы віленскіх пэпэесаў з панамі Заштовтамі і Недзялковскімі на чале аб тым, што Віленшчына—гэта чыста польская зямля, бо... ў Вільні пераважаюць палякі! І хаця ў той-жа Вільні другую палову насяленьня прадстаўляюць жыды, а навакол жывуць беларусы, віленскія пэпээсы заўсёды вымагалі падчыненьня інтарэсаў вясковага беларускага насяленьня інтарэсам польскага жыхарства места,—хаця тыя-ж самыя людзі пераварачалі ката ўверх нагамі, калі йшла спорка аб польскасьці Горнага Сьлёнску, дзе ў мястох пераважаюць немцы, а ў вёсках—польскае сялянства.... І мы разумеем, чаму рэдакцыя пункту шостага такая туманная, чаму яна не гаворыць, *якія-ж іменна нацыянальныя тэрыторыі на Усходзе Рэспублікі* павінны мець аўтаномію: бо, калі-б улада перайшла ў Польшчы ў рукі партыі П. П. С., прадстаўнікі яе пастараюцца так абрэзаць з усіх бакоў „аўтаномную“ Заходнюю Беларусь, каб яна ня выйшла за межы трох-чатырох паветаў, ды ўсе другія беларускія паветы, аканчальна прызнаныя „польскімі“, пастараюцца тады спольшчыць ужо да канца. Такую „штуку“ ўжо зрабілі камуністы з Усходняй Беларусяй, будуючы Беларускую Сацыялістычную Радавую Рэспубліку на абшары толькі шасьцёх паветаў Меншчыны.

Як бачым, у шчырасьць *кіраўнікоў* Партыі Польскіх Сацыялістаў верыць ня прыходзіцца. Будзем ждаць, як аднясецца да пытаньня аб нашай аўтаноміі *польскі пралетарыят* на партыйным Кангрэсе.

**Лаўрыновіч.**

## Старшыня „Wyzwolenia“ аб палажэньні Польшчы.

У „Kur. Polsk.“ надрукавана цікавая размова з старшынёю партыі „Wyzwolenie“ — аб сучасным палажэньні Польшчы.

Пан Тугут сьцьвярджае далёка пасунуўшаеся збліжэньне паміж групамі соймавае лявіцы, якая ня хоча больш быць у палажэньні пасыўнага сьведкі стыхыйна насуваючагася на Польшчу зьнішчэньня ўсяго, што яна здабыла дагэтуль.

П. Тугут сьцьвярджае, што Польшча „ўвайшла ў нячувана вострую стадыю гаспадарственай катастрофы амаль на ўсіх палёх дзеяльнасьці сучаснага ўраду“, што Польшча знаходзіцца ў састаяньні як быццам хранічнага трасеньня зямлі; што сучасны ўрад няздольны ні ў чым даць рады.

Але йшчэ горш, казаў лідэр „Wyzwolenia“, што німа ніякай надзеі на тое, што гэтае „трасеньне зямлі“ пад Польшчай можна было-б неяк затрымаць,—на тое, што ў Польшчы хопіць сваіх сілаў для „направы“... Але чуткам аб помачы са стараны—аб якіхсьці пазычках ён ня верыць, як ня веруць нават самыя рашучыя оптымісты...

На будучай сэсіі Сойму лявіца дзеля таго... запытае ўрад, ці ён разумее ўсю пагрозу палажэньня і—якія меры мае ў віду, каб затрымаць аканчальную руіну гаспадарства...

Што-ж радзіць яшчэ адзін з паважнейшых лідэраў опозыцыі, каб ратаваць Польшчу ад катастрофы ў палітыцы гаспадарчай, фінансавай, заграннічнай, крэсавай, вайсковай...

Перад усім опозыцыя... ня рвецца да ўлады. Супрацоўнік запраўды слушна зьдзівіўся, аж падскочыў:—Дзеля чаго?!

Што-ж трэба рабіць, ці можа што рабіла „сконсалідаваная“ (ўзмацнеўшая аб'яднаньнем) лявіца, калі-б яна, нат, „ня рвучыся да ўлады“, апынулася ў урадзе? Яна, як можна зразумець яе лідэра, лявіца павінна была-б адразу, як ён кажа, „ухваціць быка за рогі“, а перад усім спыніць паніку, якая зьяўляецца галоўнай і найглыбейшай прычынай катастрофы скарбовай, спыніць якую трэба перад усім, бо... „Галоўная, амаль не адзіная задача ёсьць курс маркі“...

„Ніякія праграмы, ніякія лёзунгі, ці абяцанкі, ці фразы ўжо ня змогуць памагчы цярпеньням насяленьня, якое чуе, што ляціць у пропасьць“...

Вось, што кажа той, што ў выпадку краху, хьенска-пястоўскага ўраду зьявіўся-б можа нават ня рвучыся да ўлады, прэм‘ерам новага габінэту...

Ен кажа акурат тое самае, што казалі „хьенцы“, рвучыся да ўлады...

---

Цікаўна, што моцны і пераконваючы ў частцы крытычнай, прадстаўнік польскае опозыцыі, упадае ў дзіўную супярэчнасьць з самім сабою, як толькі пераходзіць да часткі позытыўнай...

Запраўды—калі ні „саматугам“,—ўласнымі сіламі,—ні вонкавай помачай ня можна ўстрымаць у Польшчы „землятрасеньне“, якое іменна і зьяўляецца нейкім „об‘ектыўным станам гаспадарчым Польшчы“, і няўхібна параджае, як свой вынік, паніку,—як гэта ўсё пераканаўча сьцьвярджаецца ў крытычнай часцы „размовы“,—ды якжа-ж можна лічыць—наадварот—„найглыбейшай прычынай„ гэтага „землятрасеньня“—„паніку і здэнэрваваньне ў паглядах польскіх грамадзян і ў паглядах чужых грамадзянстваў на Польшчу“, як гэта робіць тут-жа той-жа пан Тугут—у позытыўнай, так сказаць „будучай міністэрскай“ частцы сваей „размовы“?

І—ці-ж ня будзе п. міністар Тугут нягорш за п. п. міністраў Керніка і Кухарскага лячыць „праз паніку“ об‘ектыўную катастрофу „фразамі і абяцанкамі“, таксама ня будучы ў сілах затрымаць пад Польшчай „землятрасеньне“, лячыць, як кажуць дактары, сымптомы, а ня прычыну хваробы?!

Што-ж гэта дапраўды за нейкі фатум Польшчы,—што яе дзяржаўныя дзеячы, яе гаспадарственыя мужы заўсёды маюць „рацыю“ толькі патуль, пакуль астаюцца ў опозыцыі,—толькі крытыкуюць і бэсьцяць уладу, ня пераходзячы самі ў чын... І,—як відзіш,—трацяць нават звычайную лёгіку, як толькі на‘т уявяць сябе ўрадам...

Фатум п. п. Тугутаў—у тым, што тая опозыцыя, якая „ня рвецца да ўлады“, а толькі чакае ў „палажэньні пасыўнага сьведкі“, як улада руйнуе край,—і не дарвецца да ўлады...

Не дарвецца і дзеля таго, што яна ўжо трымала, але ня ўмела ўтрымаць уладу... Каб утрымаць уладу і штось зрабіць для затрыманьня об‘ектыўнай катастрофы, трэба быць ня толькі „лепшым ад правіцы“—гэта ня штука, — але і об‘ектыўна добрым і ня толькі на словах крытыкі, але і ў чынах дзеяньня... **С.**

---

# Палітычныя падзеі.

## Шляхам да дыктатуры.

Выпадкі апошніх дзён у Нямеччыне ясна паказваюць на тое, што нямецкая буржуазія сьвядома паступова імкнецца к захвату ў сваё рукі нічым неабмяжаванай ўлады да ўвядзеньня буржуазнай дыктатуры. Нямецкія буржуазныя партыі датуль карысталіся падтрыманьнем угадовай сацыял-дэмакратыі, пакуль трэба было ашукаць работніцкія масы і палітыка нямецкай сацыял-дэмакратыі як найбольш прыдавалася на гэтае. Сацыялістычныя міністры, уваходзячы ў коаліцыйны ўрад фактычна вялі палітыку, згодную з патрэбамі буржуазіі, ствараючы ілюзію, што яны бароняць інтарэсы працоўных масаў.

Мы бачым да чаго прывяла гэтая палітыка: поўная разруха фінансаў, прамысловасьці і гандлю; страшэнная нэндза ня толькі пралетарыяту, але і дробна-мяшчанства, працоўнай інтэлігенцыі і малазямельнага сялянства. Абастрэньне клясавага змаганьня дайшло да апошніх граніц. Сацыял-угадоўцы ўтрацілі ўплывы ў шырокіх масах працоўных, і буржуазія ня бачыць карысьці ў саюзе з імі. Коаліцыйны габінэт Штрэзэмана прымушаны быў падацца ў адстаўку. Штрэзэман, атрымаўшы місію ўтварэньня новага габінэту, паставіў варункам удзяленьня яму неабмяжованых паўнамоцтваў у вобласьці гаспадарчай і сацыяльнай палітыкі, аб скасаваньні 8-мі гадзіннага рабочага дня і г. д.

Нямецкія сацыял-дэмакраты адкрыта павінны былі прызнацца, што яны гатовы прадаць інтарэсы працоўных і даць згоду на неабмяжованую ўладу буржуазіі ці ўрэшце парваць з датыхчасовай сваей палітыкай. Ні на тое ні на другое ў іх не хваціла адвагі: яны як і дагэтуль, стараюцца знайсьці нейкі кампраміс у так важных пытаньнях, дзе аб ніякім кампрамісе ня можа быць і мовы. Але буржуазныя партыі, разумеецца, зусім і ня пойдуць на кампраміс. Карэспандэнт эндэцкай „Gazety Warszawskiej“, падчырківае гэтае банкруцтва нямецкіх сацыялістаў, якія хоць і маюць вялікую сілу ў парлямэнце, але ня маюць ужо гэтай сілы ў народзе. Буржуазія, як выціснутую цытрыну, адкідае сваіх быўшых саюзьнікаў і рашуча йдзе да ўвядзеньня правай дыктатуры. Парлямэнт, у якім яны ня маюць большасьці, напэўна, будзе распушчаны. Новы ўрад з паменшаным складам атрымае дыктатарскія паўнамоцтвы і барацьба з парлямэнцкага грунту можа перакінецца на вуліцу. Заява Штрэзэмана ў парлямэнце паказвае, што ён ня мае замеру змагацца з фашыстаўскай рэакцыяй у Баварыі.

Гэтую небясьпеку для прапоўных масаў ясна ўяўляюць сабе больш дальнавідныя сацыялістычныя групы ў Саксоніі. Тут дайшло да поўнага паразуменьня з камуністамі, да ўтварэньня адзінага фронту працоўных перад агульнай небясьпекай. Пастаўлена на парадак дня пытаньне аб утварэньні „чырвонага блёку“ проціў „чорнага фашызму“. І гэты саюз усіх левых сацыялістычных цячэньняў мае ўсе шансы зьдзейсьніцца. Змаганьне дзьвюх сілаў уваходзіць у новую фазу разьвіцьця. І толькі адарваўшыяся ад жыцьця лідэры нямецкай сацыял-дэмакратыі яшчэ таргуюцца з буржуазіяй за месцы ў новым урадзе за нейкія нерэальныя ўступкі ў справе захаваньня 8 гадз. рабочага дня і палітычных свабодаў.

**Язьвіч.**

## ПОЛЬШЧА.

Рада міністраў ухваліла прапазіцыю аб скасаваньні міністэрства публічнага здароўя і, пошты і тэлеграфу. Функцыі першага міністэрства перайдуць да міністэрства ўнутраных спраў, а другога да міністэрства прамысловасьці і гандлю.

---

8 верасьня адбылася ў Варшаве прэсовая канфэрэнцыя, на якой міністар унутраных спраў п. Кернік зрабіў справаздачу з дзейнасьці міністэрства. Міністар заявіў: Трывожныя весткі, якія зьявіліся ў апошнія часы з прычыны спадку маркі зусім беспадстаўныя. Рынкі забясьпечаны прадуктамі. Прыймаючы пад увагу, што ўзрастаючая дарагоўля зьяўляецца добрым грунтам для камуністычнай дзейнасьці, якая пашыраецца на фоне нездавольства працоўных масаў, трэба зьвярнуць пільную ўвагу на гэтую дзеяльнасьць. Урэшце міністар катэгарычна заявіў, што чуткі аб пераварoце і нібы-то маючых паступіць пераменах у бок дыктатуры, ня мэюць ніякай падставы.

---

ПАТ паведамляе, што бюро Рэйтэра зьмесьціла гэткую тэлеграму:

„Згодна з данясеньнямі з Масквы, Расея вядзе энэргічную падрыхтоўку на выпадак беспарадкаў у Нямеччыне. Думаюць, што Польшча, падлягаючы французскай інспірацыі, у выпадку выбуха рэвалюцыі ў Нямеччыне распачне напад на нямецкіх камуністаў. Чырвоная армія рыхтуецца да спаралізаваньня гэтай польскай акцыі. Радавыя Рэспублікі ўмацоўваюць войскі на Украіне і высылаюць кавалерыю на Польскую граніцу“.

ПАТ. дадае, што гэтыя весткі пазбаўленай падставы.

---

„Robotnik“ паведамляе, што ўсе ўрадоўцы, якія дзён колькі таму назад ад імя арганізацыяў урадоўцаў былі ў старшыні міністраў Вітаса і прадставілі дамаганьні ўрадоўцаў, будуць звольнены са службы усьлед за звольненымі ўжо Раабэ, Цымброневічам і Чарнэцкім.

---

Па загаду камісара гор. Варшавы канфіскаваны № 4 газэты „Głos Prawdy“ і № 3 „Tygodnik Robotniczy“.

---

У Лодзі распачалася забастоўка наборшчыкаў, якія дамагаюцца падвышкі на 60 проц.

## Парцэляцыя і „асадніцтва“.

Паслы польскай лявіцы ўнесьлі ў зямельную камісію Сойму гэткага зьместу „wniosek“: Лічучы ўнесены ўрадам у Сойм праект закону аб парцэляцыі і асадніцтве за здратаваньне прынцыпаў зямельнае рэформы 1919 г.; лічучы, што прыватная парцэляцыя, якую гэтак падтрымлівае ўрад, не паможа ўрэгуляваць зямельнае пытаньне; лічучы, што абарона вялікай зямельнай уласнасьці ад прымусовага выкупу ў гэтым праекце—праведзена так далёка, што абяцанка парцэляваньня кожны год па 220 тысяч гэктараў зьяўляецца аблуднай, камісія адкідае гэты праект і прапануе ўраду ў працягу 2 тыдняў прадставіць новы, які-б быў згодны з падставамі зямельных ухвалаў Сойму 10/VII 1919 г.

Цікаўна—чаму-ж гэта лявіца, меўшая ад 1918 г. уладу ў Польшчы ня зьдзейсьніла гэтых падставаў зямельнае рэформы 1919 г. сама, а толькі цяпер, выпусьціўшы з рук уладу, вымагае каб гэтае ўсё зрабіла супраціўніца гэтых падставаў—правіца?!

## Пуанкарэ аб „Numerus clausus“.

„Nasz Przegląd“ паведамляе, што французская „Ліга абароны правоў чалавека“ зьвярнулася да Пуанкарэ з пратэстам проціў увядзеньня ў Польшчы „numerus clausus“, што знаходзіцца ў супярэчнасьці з Вэрсальскім трактатам.

На гэтае Пуанкарэ адказаў:

„Пачуваюся да абавязку заявіць, што згодна з атрыманымі весткамі праект аб „numerus clausus“, ухвалены асьветнай камісіяй, на пленарным паседжаньні Сойму адложаны. Урэшце праект у камісіі прыняты толькі большасьцю 16 галасоў проціў 13. Прыймаючы пад увагу, што справа адложана і дзеля гэтага польскі Сойм будзе мець магчымасьць бліжэй разгледзець гэтае пытаньне, трэба спадзявацца, што, пасьля грунтоўнага абмяркаваньня, Сойм ня ўхваліць уставы, якая-б стаяла ў супярэчнасьці з трактатам з 23 чэрвеня 1919 г.“

## НЯМЕЧЧЫНА.

Штрэзэман утварыў новы габінэт без участа сацыялістаў, які апіраецца на буржуазныя партыі. У парлямэнце канцлер Штрэзэман выступіў з прамоваю, у якой яшчэ раз адзначыў прычыны, змусіўшыя Нямеччыну спыніць пасыўнае праціўленьне ў Руры. Адным магчымым разьвязаньнем справы адшкадаваньняў Штрэзэман лічыць паразуменьне з Антантаю, але ня гледзячы на прапазіцыі з боку Нямеччыны ў гэтым кірунку, Антанта ніякага адказу ня дала.

---

# „Два Обсты у аднэй галаве“.

(*Спроба дыягноза нейкае нячуванае хваробы*).

Аўтар гэтых радкоў, меўшы калісь вялікую пашану да йшчэ так нядаўна найразумнейшай з польскіх газэтаў—„Gazety Warszawskiej“ і стаячага за ёй найсаліднейшага палітычнага абозу, вось ужо здаецца, пяты месяц, як ня можа папросту прыйсьці да сябе ад зьдзіўленьня і вытлумачыць сабе, што такое зрабілася з гэтай газэтай і з гэтым „абозам“, што яны ня толькі неяк схавалі і не паказываюць таго розуму і палітычнага і ўсякага сэнсу, якімі гэтак блішчэлі нядаўна, але—горш таго: паказываюць нешта зусім выразна праціле жнае...

І калі на гэтых днёх перадавік „Kur. Polsk.“ пан Zm. (напэўна Зьмей, бо жаліць бяз канца ядавіта) ужыў адносна да палітыкі гэтага абозу нязвычайна моцнага выразу „ідыётычны“, дык аўтор больш ня вытрымаў, яго думка пачала працаваць і вынікамі гэтае працы ён хоча падзяліцца з чытачамі...

---

Мы ня будзем на гэты раз высьвятляць да канца таго дзіўнага зьявішча, што кожны з абодвых абозаў нігілістычна конкуруючых у Польшы—лявіца і правіца калі, знаходзячыся ў опозыцыі, лае і шальмуе свайго ўрадовага супраціўніка, аказываецца надзвычай разумным, гэткім непераможна-лёгічным, фактычна-абснаваным, пераканаўчым... А калі той самы абоз апыніцца, як кажуць у парлямэнтарнай Эўропе, на ўрадовых лаўках і яго прадстаўнікі разваляцца панамі на міністэрскіх „фотэлях“, ды йшчэ пачнуць бараніць ад опозыцыі сваю палітыку, дык адразу—дапраўды нейкім дрэнным cudem nad Wisłą—увесь розум, усе таленты, уся непераможна-лёгічная пераканаўчасьць, на жаль, ізноў аказываецца ня ў тым абозе, які ўрадова творыць палітыку, але—ў таго, які опозыцыйна бэсьціць палітыку сучаснага ўраду...

Яшчэ дзіўней, што ўсё тое, што да таго пісала напрыклад у сваіх газэтах правіцовая опозыцыя аб лявіцовым ўрадзе, пасьля таго, як толькі абодва абозы пераменяцца мясцамі, можна прачытаць у лявіцовых газэтах аб правіцовым урадзе...

Калі, напрыклад, Начальнік Дзяржавы Пілсудскі ў 1921 гаду зьбіраўся першы раз у Парыж за франкамі для лявіцовага ўраду, а п. Станіслав Строньскі з запраўднай „Rzeczypospolitej“ бэсьціў яго на чым сьвет стаіць, зусім слушна прыпамінаючы ня толькі яму самаму і яго абозу, але галоўным чынам—францускаму ўраду і грамадзянству, ад якіх Пілсудскі меўся атрымаць грошы, яго аўстрыяцка-нямецкія сымпатыі і яго проціантанцкае „bohaterstwo“ ў часе вайны, у адказ на гэтае ўрадова-лявіцовая прэса неяк нязда рна паўтарала толькі, што гэткая полеміка з партыйным праціўнікам б‘е ня толькі па ўраду, ня толькі па асобе нямілага правіцы „лявіцовага“ галавы Гаспадарства, але і па самаму гаспадарству... Паўтарала акурат тое самае, што цяпер таксама нязда рна піша ўрадовая „Gazeta Warszawska“ аб тым „лявіцовым фронце“, які таксама бэсьціў правіцовы ўрад—у той самы час, калі яго міністар фінансаў езьдзіць па ўсей Эўропе, стараючыся ці франкаў, ці фунтаў, ці даляраў, бяз якіх—ўжо відаць ясна—польскаму гаспадарству будзе горш, як ад самага Пілсудскага...

І галоўная бяда—ў тым, што ўвесь розум, уся праўда крытыкі, усе, як пышна выражаецца „Gazeta Warszawska“ „zastrzeżenia natury moralnej, logicznej i politycznej“ але—опозыцыйна—не на старане ўрадовае газэты і ўраду, але—на старане опозыцыі, і зусім не так лёгка і проста рашыць, хто больш шкодзіць цяпер „гаспадарству“—ці той абоз, што трымае ўладу, ці той, што яго бэсьціць і шальмуе—„bez warunków i zastrzeżeń“!

Але мы будзем гаварыць толькі аб тым абозе, які цяпер пануе над намі. Што, дапраўды, сталася з тымі самымі галовамі, якія дагэтуль гэтак спрытна, салідна і здарна разважалі аб усялякіх рэчах?!

Чаму гэта, як толькі яны атрымалі ўладу, дык адразу так... непаразумнелі... Чаму гэта тая самая опозыцыйна-разумная „Gaz. Warszaw.“ зрабілася гэткай урадова неразумнай, так падобнай да благое памяці гурлянда-сталыпінскай „Россіи“, якая жорстка кажучы, праславілася сваёй дурнотай і бязсумленнасьцяй, або, як выражаецца Zm., „ідыётычнасьцяй“...

Гэтае зьявішча канешна трэба растлумачыць, бо, як здаецца аўтору, іменна ў гэтым месцы, як кажуць, *зарыта сабака*, якая, выбачайце, сьмярдзіць ня толькі на ўсю Польшчу, але дапраўды—на ўсю Эўропу, калі йшчэ не далей...

Дапраўды—чаму гэтак адразу псуецца розум у таго, хто перасядае ў Польшчы з лавак опозыцыі на лаўкі ўрадовыя?..

Спрабуем, не ахопліваючы адразу ўсяго прадмету,

